


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 30 (1065) БЕЛАСТОК, 25 ЛІПЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.




Складанне маладажонамі кветак у памяць герояў Беластоцкай зямлі, якія ахвяравалі сваё жыццё ў імя нашага спакою і дабрабыту, стала ў беластаччан добрай традыцыяй.

Фота З. Лянкевіча.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## АРЭШКАВА

Цяпер ужо немагчыма ўстанавіць, хоць бы і прыблізна, хто даў пачатак гэтаму сялу, што знаходзіцца ў васьмі кіламетрах на поўдзень ад Гайнаўкі і побач з паўстанкам на чыгуначнай лініі Гайнаўка-Чаромха.

Арэшкава паўкругам урэзваецца ў масіў Белавежскай пушчы, і аб гэтым выразным наступе чалавека на лес захавалася тут легенда. Кажа яна, што першае чалавечае паселішча знаходзілася там, дзе сёння хутар Вярхоўскія, што непадалёк рэчкі Хвішчэй. З бегам часу людзей прыбывала, і пад іх сякерамі ўсё далей на поўдзень і ўсход адступала пушча. Але, відавочна, гэты працэс цягнуўся доўгія стагоддзі, бо ў мясцовых назвах палеткаў захаваліся выразныя сляды мовы балтыйскіх плямёнаў (літоўцаў або яцвягаў), напрыклад: „Красніца“ (у літоўскай „кросніс“ — „горба камення“), „Клеўці“ (у літоўскай „клянас“ — „невялікае балотца, лужына, крыніца“), „Пасыця“ (у літоўскай „пасяута“ — „прастора ўздоўж катлавіны, адхон“), „Пэрэево“ (у літоўскай „пэрэя“ — „вузкае месца, высечаная ў лесе лінія“), „Тычайкі“ (у літоўскай „тэке“ — „невялікая рачулка, забалочаны ручай, мокрае і нізкае месца на полі“), „Шавуліне“ (у літоўскай „шова“ і латышскай „шава“ — „невялікае адкрытае месца ў лесе“) і інш. Але дзесяткі іншых назваў як: Багон, Бакавое, Круглае, Клін, Трасцінеча, Чабаток і г.д. ужо беларускага паходжання. У пісаных крыніцах Арэшкава ўпамінаецца ў 1639 годзе як „ключавое“ сяло Арэшкава Воля, да якога належала некалькі прысёлкаў. Але вёска была паншчынная, бо памяць аб прыгоннай працы яшчэ і па сённяшні дзень захавалася ў пераказах старэйшых людзей.

Водгулле колішняй рэкрутчыны засталося ў назве палетка „Маскоўскі гароды“. Пра яе радавод мясцовыя людзі кажуць, што пры цары вясковых хлопцаў бралі ў войска на 25 год. Такога „рэкрута“ і родзічы і ўсё сяло праводзіла на службу, як на смерць, бо вельмі рэдка здаралася, каб ён, адслужыўшы столькі часу, вярнуўся дадому. Гэтую панурую старонку мінулага жыхары Арэшкава і навакольных вёсак захавалі ў шматлікіх песнях пра рэкрутчыну і салдатчыну. У адной з іх маці, адпраўляючы сына ў салдаты, пытае: „Ой, колі ж ты, муой сыночку, прыдэш до нас у гості?“, а той адказвае: „Як выростэ ў вашых сіенях трава на помості“. І песня далей сцвярджае: „Росла, росла травічэнька, ста-

(Працяг на стар. 4)

VIII З'ЕЗД БГКТ

## 3 КЛОПАТАМ ПРА РОДНАЕ СЛОВА

**(ВЫСТУПЛЕННЕ ДЭЛЕГАТА З ГУРТКА Ў АЎГУСТОВЕ КАЛЯ БЕЛЬСКА ЯЎГЕНА АНІСЬКІ)**

З нагоды юбілею прынята гаварыць больш аб дасягненнях, чым аб недахопах. Аднак, як гэта заўважыў адзін з выступаючых, таксама і мае некалькі крытычных слоў, якія я хачу выказаць, не заслоняць сапраўды вялікіх дасягненняў БГКТ у мінулым 20-годдзі.

Да найважнейшых заданняў нашай арганізацыі належыць садзейнічанне развіццю навучання беларускай мове і культурнай дзейнасці. І нельга не заўважыць, што ў справах вывучэння роднай мовы Галоўнае праўленне дапусціла вялікія занядбанні. На працягу некалькіх апошніх год колькасць дзяцей, якія ходзяць на ўрокі роднай мовы, зменшылася ўдвая. Аб гэтым ГП БГКТ ведала, але доўгі час нічога не

(Працяг на стар. 2)



Новыя вершы

## ЛІПЕНЬ

*Шчодра абмытая сонцам і ліўнямі,*
*Дрэмле ў палях ціішыня*
*пераджніўная.*
*Конікі ў жыце звіняць, не*
*змаўкаючы,*
*Хіліцца колас, камбайна чакаючы.*
*То не асуджанасць, сумам спавітая, —*
*Шчырая ўдзячнасць за ўсё*
*пераж ытае*
*Людзям, зямлі, прамяністаму*
*сонейку.*
*Ветру, дажджу, бесклапотнаму*
*коніку.*
*Ці не таму без трывогі і суму я*
*Стаў перад нівай і думаю, думаю.*
*Думаю, шумам яе заваражаны:*
*„Чым жа аддзячу вам, людзі*
*харошыя?!“*

**Мікола Янчанка**

# БРЭСЦКІЯ ЎСПАМІНЫ

Яшчэ ў школьныя гады мне выпадкова трапіла ў рукі аповесць Смірнова „Брэсцкая крэпасць“. Для мяне, як любіцеля кулісаў апошняй сусветнай вайны, гэта было чымсьці новым. Цудоўная кніга! Пасля прачытання сабранага аўтарам матэрыялу аб трагічнай і слаўнай барацьбе абаронцаў крэпасці, я пачаў марыць аб тым, каб наведаць гэтыя месцы. Прагненне гэтае стала яшчэ большым, калі восенню 1971 года прэса данесла аб урачыстым адкрыцці мемарыяльнага комплексу „Брэсцкая крэпасць-герой“. І, урэшце, вясной гэтага года мае мары здзейсніліся.

На другі дзень пасля нашага прыезду ў Брэст мы разам з родзічамі накіраваліся у крэпасць. Не толькі я, але і другія чытачы „Нівы“ сталі б лічыць мяне дрэнным карэспандэнтам, калі б я не падзяліўся з імі сваімі ўражаннямі і прамаўчаў такую важную падзею.

Каб пачуць як мага больш, мы далучаемся да школьнай экскурсіі, прыехаўшай у Брэст аж з далёкага Варонежа. Ужо перад уваходам у крэпасць відаць нямыя сведкі мінулых баёў. Дрэвы. Велізарныя, можа 100-гадовыя вербы, асмаленыя агнём, разарваныя напалову снарадамі, з абгарэўшымі куксамі тоўстых галін.

Пад скляпеннямі Галоўнага ўвахода, выкананага ў выглядзе гіганцкай, на дзесяць паверхаў, пяціканцовай зоркі, сімвалізуючай ваенны гонар і подзвігі, усе на момант затрымоўваемся. Замантаваныя недзе ў вышыні гучнагаварыцелі падаюць сімвал апошняй вайны — камюніке аб нападзенні фашысцкіх захопнікаў на Савецкі Саюз. „Увага, увага! Гаворыць Масква. Сёння, 22 чэрвеня 1941...“. Да болю знаёмыя словы. А праз хвіліну даносіцца як жа вядомая песня „Свяшчэнная вайна“. Міжвольна сціскаецца горла, падымаюцца на галаве валасы. Незабыўнае ўражанне!

Колер асфальту па алеях чырвоны, побач дываны чырвоных цюльпанаў і ружаў; усё гэта напамінае, што кожная пядзь зямлі тут шчодра паліта крывёю герояў. Цэнтральная алея вядзе ад Галоўнага ўвахода да плошчы Цырыманіялаў, дзе пад гранітнымі плітамі спачывае прах 823 загінуўшых герояў.

Амаль з кожнага месца ў Брэсце прыкметны высокі стаметровы штык — абеліск, абліцованы тытанавым сплавам. Экскурсавод, маладая жанчына, аказваецца дасканалым знатаком гісторыі Брэсцкай крэпасці. З вялікім зацікаўленнем слухаем яе расказы пра паасобных герояў. Адзін з іх — лейтэнант Аляксей Наганаў. Знойдзены летам 1949 года ў развалінах Цярэспальскіх варот. Правая рука выцягнута ўперад, а ў ёй заціснуты пісталет. У магазіннай каробцы пісталета тры кулі, чацвёртая — у канале ствала. Ён назаўсёды застаўся стаяць на баявым пасту.

Галоўны манумент мемарыяла — Воін. У яго грозным позірку відаць адвага, нязломнасць і нянавісць да ворагаў. На заднім баку манумента відаць барэльефы, адлюстроўваючыя гераічнасць і непераможнасць абаронцаў крэпасці.

Падыходзім да берага Мухаўца. Побач маста скульптурная кампазіцыя „Смага“. Салдат без мундзіра і кашулі. У правай руцэ аўтамат. Паўзком ён стараецца дастаць шлёмам (у выцягнутай другой руцэ) да вады. У маім уяўленні малююцца вобразы з кніжкі Смірнова.

...На другім беразе ракі немцы. Многа немцаў. І навальніца снарадаў. І смерць. А вада была ўжо так блізка...

Жанчыны тайком абціраюць мокрыя вочы. Кампазіцыя перадае так дасканала сентэнцыю абставін, што экскурсавод не каментуе.

Далей кіруемся да Холмскай брамы. Тут кожны кавалак сцяны, кожная цагліна напамінаюць аб мінулым. І яшчэ адно. Аб мінулым не дазваляе забыць мемарыяльная дошка, замацаваная побач з брамай, дзе быў расстраляны фашыстамі адзін з камандзіраў брэсцкай абароны.

Неад'емнай часткай мемарыяла з'яўляецца музей, дзе сабраны свяшчэнныя рэліквіі, якія сведчаць аб бессмяротным подзвігу абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Абаронцаў, што ў большасці засталіся безыменнымі героямі. Як той, што пакінуў на сцяне надпіс: „Я паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма...“ Гэты, вядомы кожнаму, лаканічны надпіс на сцяне Цытадэлі славы не безыменны; ён ад імя ўсіх герояў крэпасці.

У Брэсцкай крэпасці заўсёды многа наведвальнікаў. Сюды цячэ рака людзей, каб схіліць галаву перад памяццю загінуўшых герояў. Сотні тысяч экскурсантаў прыязджаюць на гэтую зямлю з усіх саюзных рэспублік, з дружалюбных сацыялістычных краін і іншых дзяржаў свету.

Мы, маладое пакаленне, шчаслівы, што не давялося нам бачыць усе лютасці ваенных падзей, і па гэтай прычыне павінны аказваць пашану тым, дзякуючы каму жывем у сённяшняй рэчаіснасці. Таму заахвочваю: калі давядзецца каму-небудзь быць у Брэсце, абавязкова наведайце мемарыяльны комплекс „Брэсцкая крэпасць-герой“. Захаваеце ў вашай памяці своеасаблівую, непаўторную карціну — трывожную і ўрачыста-аптымістычную.

Калі мы пакідалі крэпасць — да Галоўнага ўвахода набліжалася група наведвальнікаў. Наперадзе ішло двое маладых людзей. Ён у беззаганна скроеным касцюме, яна ў снежнабелай сукенцы і вэлюме на галаве. Абое трымалі на руках букеты чырвонай гваздзікі. А побач, каля чырвоных руін, стаяла даволі пажылая жанчына, з белай насоўкай каля вачэй. Чырвань і бель...

**Сярсацкі**


**Тут пакінулі свой крывавы след фашысты... (Фота з архіву).**

Пачатак на стар. 1

## З КЛОПАТАМ ПРА РОДНАЕ СЛОВА

рабіла, толькі цяпер пачынае брацца за гэтую справу. Навучанне дзяцей роднай мове мае для нас фундаментальнае значэнне. Мастацкая самадзейнасць і іншыя формы культурна-асветнай дзейнасці БГКТ будуць занепадаць, калі будзе змяншацца лік дзяцей, вывучаючых беларускую мову. А гэта па той простай прычыне, што не будзе папаўнення людзей, якія валодаюць беларускай літаратурнай мовай. Напэўна перад усёй нашай арганізацыяй, перад кожным яе членам, стаіць абавязак заняцца пашырэннем навучання беларускай мовы. Але і кураторыя, замест прасіць гмінных дырэктараў і дырэктараў пачатковых школ, павінна вымагаць, ды значна больш чым дагэтуль, каб яны клапаціліся пра навучанне беларускай мовы. Дадам, што ў некаторых школах за вядзенне ўрокаў гэтага прадмета чамусьці не плоцяць настаўнікам, і гэта надта дрэнна ўплывае на навучанне. Са свайго боку ГП БГКТ павінна стварыць камісію па справах школьніцтва, якая б занялася ўсімі асветнымі справамі. Дзеля павышэння рангу беларускай мовы ўсе ўнутрыарганізацыйныя справы ў БГКТ — даклады, справаздачы, дакументацыя, карэспандэнцыя і г.д. павінны весціся якраз на роднай мове. „Ніва“ таксама павінна пазбягаць публікацый на іншых, чым беларуская, мовах, а побач з польскімі песнямі змяшчаць і складзеныя беларускімі кампазітарамі на словы беларускіх паэтаў.

Члены нашага гуртка прасілі мяне перадаць з'езду некалькі прапаноў. Вось яны. У сувязі з рэарганізацыяй нашага таварыства і ліквідацыяй павятовых аддзелаў, неабходна стварыць грамадскія гмінныя аддзелы БГКТ, якія будуць вельмі важным дапаможным звяном у працы нашай арганізацыі, асабліва ў абслугоўванні актывам гурткоў. Варта адкрыць на старонках „Нівы“ і сістэматычна весці курс сучаснай беларускай мовы для дарослых. Пры ГП БГКТ павінен паўстаць вялікі і на высокім мастацкім узроўні тэатральны калектыў, які мог бы часцей даваць пастаноўкі і выязджаць з імі ў іншыя мясцовасці, каб папулярызаваць беларускае сцэнічнае мастацтва. Трэба звярнуць увагу працаўнікам кнігарань, якія знаходзяцца ў беларускіх асяродзях, каб беларускія кнігі былі выстаўлены ў вітрынах і было іх больш у продажы, асабліва каляровых выданняў для дзяцей. У чытальнях бібліятэк, клубах „Руху“ і селяніна павінна быць больш часопісаў з Савецкай Беларусі. Неабходна, каб ГП БГКТ надалей утрымоўвала цеснае супрацоўніцтва з многімі арганізацыямі і ўстановамі дзеля дабра нашай дзейнасці.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**Каб больш і лепш ● Прызнанне за дзейнасць ● Калі б сын (Яна Полюха з Сяміхочаў) захацеў... ● Слухаючы голас народу ● Пра дом адпачынку „Беларусь“ ● Літаратурная старонка ● Дзе ў Бельску пераначаваць? ● Фальклорныя рыбакі ● Самоцік уручае ўзнагароды ў Мілейчыцах ● Весткі з Юшкавага Груда, Дубровы, Мокрага, Крыніцы, Грушак, Плянты, Бельска і Беластока ● Калі прысніцца пахаванне і жывая рыба... ● Песня „Czerwona ruta“.**




**Sobota 24.VII.** 8.00 Program na dzień dobry. 8.30 Studio Olimp. 10.00 Marynarze — film fab. radz. 12.25 Studio Olimp. 15.20 Pr. I prop. 15.35 Pr. dnia. 15.40 Za kierownicą. 16.00 Przegląd Polonijny. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przez maskę płetwonurka — film dok. franc. 17.30 Studio Olimp. 19.00 Dobranoc. 19.10 Monitor. 19.55 Studio Olimp. 22.10 Wieczorne Kino Letnie: Święty — film ser. ang. 23.00 Dziennik. 23.15 Studio Olimp.

—■-■—

**Niedziela 25.VII.** 6.40 Tech. Rol. 7.00 Tech. Rol. 7.20 Nowocz. w domu i zagrodzie. 7.45 Bieg po zdrowie. 8.00 Wiad. sport. 8.05 Pr. dnia. 8.10 Antena. 8.30 Kino Najmłodszych. 9.00 Studio Olimp. 10.30 W starym kinie — STANISŁAW SIELANSKI. 11.30 Piórkiem i węglem. 12.00 Dziennik. 12.20 Ostatni wolni Indianie. 12.55 Studio Olimp. 15.15 Radar. 15.30 Los. Duż. Lotka. 15.45 Między nami jaskiniowcami — film animow. USA. 16.25 Piosenki na molo. 17.55 Eleonora — film ser. wł. 17.55 Studio Olimp. 20.10 Wieczorynka. 20.20 Dziennik. 21.00 Studio Olimp.

—■-■—

**Poniedziałek 26.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 12.55 Studio Olimp. 15.45 Pr. dnia. 15.50 Dziennik. 16.00 Obiektyw. 16.20 Kino Zwierzyńca. 16.50 Testament starego mistrza — film ser. radz. 17.55 Studio Olimp. 19.30 Dobranoc. 19.40 Dziennik. 20.10 Studio Olimp. 22.40 Dziennik. 22.55 Kuba na styku epok. 23.25 Studio Olimp.

—■-■—

**Wtorek 27.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 11.00 Eleonora — film ser. wł. 12.25 Studio Olimp. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Lektury Pegaza. 16.50 Studio Tel. Młodych. 17.50 Studio Olimp. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Studio Olimp. 20.35 Chłopiec na posyłki — film fab. wł. 21.25 Świat i Polska. 22.00 Dziennik. 22.15 Studio Olimp.

—■-■—

**Środa 28.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 11.00 Chłopiec na posyłki — film fab. wł. 12.25 Studio Olimp. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Los Mał. Lotka. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Popołudnie najmłodszych. 17.40 Studio Olimp. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Studio Olimp. 20.35 Nazwała mnie przeklętym mordercą — film fab. szwedzki. 21.20 Szuflada. 21.40 Dziennik. 22.00 Studio Olimp.

—■-■—

**Czwartek 29.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 11.00 Film fab. 12.25 Studio Olimp. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Poligon. 16.50 TELEFERIE. 18.00 Studio Olimp. 19.00 Dobranoc. 19.10 Dziennik. 19.55 Studio Olimp. 23.00 Dziennik. 23.30 Studio Olimp.

—■-■—

**Piątek 30.VII.** 9.00 Program na dzień dobry. 9.30 Studio Olimp. 11.00 Lato i co dalej — film fab. TV NRD. 12.40 Studio Olimp. 16.15 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przez maskę płetwonurka — film dok. franc. 17.30 Studio Olimp. 19.00 Dobranoc. 19.10 Dziennik. 19.55 Studio Olimp. 23.10 Dziennik. 23.30 Niebezpieczny punkt obserwacyjny — film kryminalny ang. 0.25 Studio Olimp.




**Piątek, 23.VII.** — 8.05 Film fab. („Czterdziestolatek”). 9.00 Igrzyska Olimp. 16.30 Koncert. 19.30 Igrzyska Olimp.

**Sobota 24.VII.** — 9.00 Igrzyska Olimp. 12.00 Film fab. 16.15 Igrzyska Olimp. 19.30 Film — koncert. 20.45 Koncert artystów bułgarskiej estrady.

**Niedziela 25.VII.** — 9.00 Igrzyska Olimp. 13.00 Koncert. 13.40 Związek Radziecki w oczach świata. 13.20 Film anim. 16.15 Igrzyska Olimp. 19.30 Koncert.




**Białowieża** Człowiek z cudzym mózgiem — fr. 27—28.VII. Skazany — pol. 29—30.VII. Taka była Oklahoma — USA 31.VII—1.VIII.

**Czyże** Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. Kes — ang. 28.VII—1.VIII.

**Dubicze Cerkiewne** Jarosław Dąbrowski — pol. Wielki dzień i wielka noc — czes. 28.VII—1.VIII.

**Gródek** Człowiek z cudzym mózgiem — fr. 31.VII—1.VIII.

**Kleszczele** Być kobietą — radz. 27—28.VII. Wilk morski — rum. 29—30.VII. Zemsta wilka morskiego — rum. 31.VII—1.VIII.

**Michałowo** Mściciel — USA 27—28.VII. Blokada — radz. 29—30.VII. Doktor Judym — pol. 31.VII—1.VIII.

**Mielnik** Żeglarz znad Dunaju — rum. 28.VII. Opadły liście z drzew — pol. 31.VII—1.VIII.

**Milejczyce** Bułeczka — pol. 27—28.VII. Julka, Julia, Juleczka — NRD 29—30.VII. Linia — pol. 31.VII—1.VIII.

**Narew** Strach — pol. Kapitan Mikula Mały — jug. 28.VII—1.VIII.

**Narewka** Dziewczęta jak iskry — węg. Tomcio Paluch — fr. 28.VII—1.VIII.

**Nurzec** Mania wielkości — fr. 27—28.VII. Jak utopić dr Mruczka — czes. 29—30.VII. Obrazki z życia — pol. 31.VII—1.VIII.

**Orla** Dzieci lwicy z Buszu — ang. Nie ma róży bez ognia — pol. 28.VII—1.VIII.

**Rajsk** Czerwone i białe — pol. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz. 28.VII—1.VIII.

B.Z.Graf. Zam. 1507. F-2.

 

# ФЭСТЫН У РЫБАКАХ



*З прывітальным словам выступіў сакратар гміннага камітэта партыі Я. Азябла.*



*Конкурсы вяла Людміла Васілюк (злева). На пытанні адказвае К. Франкоўская з вёскі Калясное (справа).*



*Спявае дзявочая эстрадная група з Плёсак.*



*Удзельнікі фэстына.*

У нядзелю, 4 ліпеня, быў цудоўны сонечны дзень. У засені наднараўскіх дрэў з боку вёскі Рыбакі (гміна Шымкі) ля загадзя пабудаванай сцэны сабралася некалькі тысяч людзей. Прыйшлі і прыехалі сюды на беларускі фэстын (ужо пятнаццаты ў гісторыі гэтай вёскі) жыхары з чатырох гмін: Шымкаўскай, Міхалоўскай, Гарадоцкай і Нараўкаўскай.

З самага ранку іграла музыка і панаваў прыўзняты настрой. Было прыгожа і ўрачыста. Члены, актывісты і сімпатыкі БГКТ развесілі лозунгі, шырокія бела-чырвоныя палотны і палотны з прывітальнымі надпісамі, упрыгожылі бярозкамі пляц. У вёсцы панаваў ажыўлены рух. Ля ўваходу на пляц усіх запрашаў надпіс: „Вітаем удзельнікаў фэстына“.

Сёлетні народны фэстын, прысвечаны 20-ай гадавіне БГКТ і „Нівы“, адкрыў сакратар гміннага камітэта партыі ў Шымках Я. Азябла. З дакладам выступіў член Прэзідыума ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі. Даклад зрабіў вялікае ўражанне на слухачоў. У ім гаварылася аб дасягненнях беларусаў, аб іх згодным сужыцці з палякамі, аб прыгажосці роднага беларускага слова і песні, аб беларускай матэрыяльнай культуры і г.д.

У мастацкай частцы выступілі: музычна-вакальны калектыў „Каласкі“ з Беластока і дзявочая эстрадная група з Плёсак. На працягу дзвюх гадзін вёска жыла песнямі. У перапынках адбыліся 2 конкурсы: адзін — звязаны са святкаваннем 20-ай гадавіны БГКТ і „Нівы“, другі — на тэму супрацьпажарнай прафілактыкі. Вяла іх працаўнік ГП БГКТ Людміла Васілюк.

Публіцы асабліва спадабаліся мілагучныя песні (большасць з іх было беларускіх), жартоўныя сцэнкі. Словам, увесь багаты рэпертуар. Гарачыя апладысменты гледачоў найлепш гаварылі аб поспеху выканаўцаў. Вялікім зацікаўленнем карысталіся ЛОК-аўскія стралецкія спаборніцтвы і кніжная латарэя.

Было што паглядзець, было што з'есці і выпіць. Аб усім, што неабходна для таго, каб падсілкавацца, паклапаціўся міхалоўскі ГС.

На заканчэнне адбылася забава ў „зялёнай святліцы“. Усе гулялі пад гукі вясковага аркестра.

Тэкст і фота
**Янкі Цялушэцкага**

## ГАЙНАЎКА ГАТОВА ПРЫНЯЦЬ ТУРЫСТАЎ

Многія турысты па дарозе ў Белавежу ахвотна затрымліваюцца ў Гайнаўцы. Тут у турсезоне прадоўжаны гадзіны працы рэстаранаў, бараў і буфетаў. Быў адноўлены найбольшы рэстаран „Гайнавянка“ (у рэгіянальным стылі), сталовая па вул. М. Бучка, бар на вакзале ПКП. Ва ўсіх іх ёсць 440 месц. Рэстаран „Гайнавянка“ прапануе ўсім ахвотным перш за ўсё сваю гастранамічную спецыяльнасць — бульбяную кішку і зразы па-гайнаўску. (ця)

## ЛЯСНЫ ЦЭНТР АДПАЧЫНКУ

Непадалёк ад Супраслі мясцовае надлясніцтва адкрыла невялікі цэнтр адпачынку для дзяцей, моладзі і дарослых. Тут пабудаваны аб'ект тыпу Біскупіна, сцежка здароўя, пляцоўка для дзіцячых гульняў. Карыстаюцца з яго перш за ўсё турысты, адпачываючыя і мясцовыя жыхары. Лясны цэнтр адпачынку прыцягвае ўсіх гасцей, наведваючых гэтую цікавую мясцовасць.

(ця)

## ЗАЯЗНЫЯ ДАМЫ

У бягучай пяцігодцы на Беласточчыне ля найбольш наведваемых шляхоў будзе пабудавана пяць заязных дамоў. Будуць гэта прыгожыя аб'екты, у якіх афіцыянткі будуць падаваць турыстам рэгіянальныя стравы і іншыя прысмакі.

Першы заязны дом, на 34 начлежных і 86 месц у сталоўцы, будзе перададзены ў карыстанне ў Сямяцічах. Атрымаў ён назву „У Кміціца“.

Крыху пазней будзе гатовы заязны дом у Чорнай Беластоцкай. Будуецца такі дом каля Плёсак, на ўскраіне сасновага лесу і на беразе Нарвы, пры шляху Беласток - Бельск - Сямяцічы. Плануецца яшчэ пабудова заязнога дома ў Юроўцах каля Беластока і ў Нараўцы, у адлегласці 17 кіламетраў ад Гайнаўкі. (ця)

# ВЁСКА ВЕТЭРАНАЎ

Вайна па-рознаму запісалася ў нашым жыцці. Адно толькі было супольнае: бяда і гора ад гітлераўскіх знуткаванняў і барацьба з акупантам. Нашы землякі змагаліся з лютым ворагам на ўсіх франтах другой сусветнай вайны. Пераканаўся я ў гэтым, пабываўшы ў адной толькі вёсцы, у **Новай Волі**, якая знаходзіцца за Міхаловам. Вёска вялікая, з аднаго канца ў другі больш двух кіламетраў. Заможная, багатая, прыгожая. Тут новая школа, прасторная крама, вясковы клуб, а сярод старых дрэў яркім блакітам красуецца стройная царква.

Якраз за гэтай царквой жыве **Аляксей Кузьміцкі**, які ўжо размяняў сёмы дзесятак гадоў.

— У вайну быў я артылерыстам, — гаворыць ён. — Служыў у трэцім палку цяжкай артылерыі ў Вільні. У пачатку верасня 1939 года, калі пачалася вайна, нас перакінулі ў цэнтральную Польшчу. Біліся мы пад Тамашовам Мазавецкім, пад Чэнстаховай і Пётркавам Трыбунальскім. 7 верасня мяне параніла. На шчасце, не вельмі моцна. 12 верасня астаткі нашага палка немцы захапілі ў палон. І тут ад першых гадзін на ўласнай скуры адчуў я звярыную натуру гітлераўцаў. Не далі нам ані есці, ані піць, нават параненым. Запхнулі ў цялячыя вагоны па 96 чалавек у кожным. Стаялі мы збітыя, як селядцы ў бочцы. Ні нагой, ні рукой не рушыш... Тры дні так некуды нас везлі, дзвярэй не адкрываючы. Хто аслаб ад голаду, яшчэ болей ад смагі і абсунуўся на падлогу вагона, дык ужо і не ўстаў, свае яго затапталі, бо не было магчымасці памагчы няшчасным... Каб яшчэ дзень, дык усе мы падушыліся б...

Выгрузілі іх у горадзе Герліц, заперлі за калючы дрот, а на зіму паставілі палатняныя палаткі...

— Тут я і пераканаўся, — гаворыць Аляксей Кузьміцкі, — што сапраўды *„чалавек не жалеза, больш вытрымае“*. Маразы перавышалі 30 градусаў, а мы пад гэтымі палаткамі ў адных салдацкіх шынелях, а некаторыя і гэтага не мелі.

Многа яшчэ гора перажыў гэты чалавек.

— Ніколі не думаў, што вярнуся дамоў, што буду жыць. Калі нас вызвалілі савецкія воіны, дык я ўжо не мог нават устаць...

**Станіслава Каліноўскага**, якому цяпер ужо 77 гадоў, вайна загнала аж у Італію.

— Пад Монтэ Касіна быў я артылерыстам. Памятаю, што занялі мы баявыя пазіцыі ля гэтай праклятай гары ноччу, падмяніўшы нейкае афрыканскае, французскае ці англійскае войска. Тыя салдаты аж скакалі ад радасці, што мы вызвалілі іх з гэтага пекла... Немцы сядзелі на вярхушцы гары, замацаваўшыся ў мураваным манастыры, у скальных акопах. А нам давялося яе браць, бо яна стаяла на дарозе аліянскім вайскам у Рым. За першым разам не ўдалося. Чатыры тысячы нашых салдат асталося на падступах да Монтэ Касіна. Чатыры тысячы... — паўтарае ён у задуменні, і яго позірк адплывае далёка... далёка... Пасля дрыжачымі рукамі пачынае ён прыкурваць папяросу... І тады заўважаю, што на адной руцэ не хапае пальцаў.

— Гэта памятка менавіта з-пад Монтэ Касіна, — паясняе Станіслаў Каліноўскі.

Заходжу да **Яна Салаўя**. Ён у 1940 годзе, як і многія іншыя нашы землякі, быў мабілізаваны на службу ў Чырвоную Армію. Вайна ў 1941 годзе застала яго ў лясных баях, перажыў некалькі знішчальных налётаў варожай авіяцыі, і ўрэшце апынуўся ў акружэнні.

— Куды не кінемся, на ўсход ці на захад, усюды ўжо немцы. Зловяць некалькі нашых салдат — і адразу на расстрэл. Мяне захапілі ў шматлюднай калоне, і таму астаўся ў жывых. Пагналі нас некуды на захад... Ні піць, ні есці... У адной вёсцы спынілі нас, загадалі сесці і сказалі, што дадуць вады. Нейкі дзядуля вынес за парог сваёй хаты цэлую каробку свежага, пахучага хлеба. Нашы салдаты тут жа накінуліся на гэты хлеб... А гітлераўцы з аўтаматаў па іх... Чалавек дваццаць, а можа і больш... назаўсёды асталося ля гэтай каробкі з хлебам...

Не адно гора перажыў яшчэ гэты чалавек. Давялося яму на сваім нялёгкім жыццёвым шляху сустрэць і іншых немцаў, антыфашыстаў. Яны яму дапамаглі астацца ў жывых.

Яшчэ неабходна хаця ўспамянуць пра **Мікалая Свярчэўскага**, які найперш ваяваў у верасні 1939 года, пасля ўдзельнічаў у падпольнай барацьбе з ворагам, а ў 1944 годзе быў зноў мабілізаваны ў II армію Людовага Войска Польскага. Шмат чаго цікавага можна было б таксама расказаць пра **Раісу Буйко**, якая санітаркай служыла ў Савецкай Арміі і пасля перамогі над фашысцкай Германіяй несла дапамогу салдатам аж у Манчжурыі на японскім фронце, а цяпер разам з мужам выдатна гаспадарыць у Новай Волі, дзе таксама жывуць яшчэ многія іншыя заслужаныя ветэраны лютай вайны.

Адна вёска, а ваенны лёс яе жыхароў такі розны...

**Віктар Рудчык**



 




*У часе сесіі „Сакольскі арыент — праўда і легенда“.*

# Аб Сакольскім арыенце

У Саколцы 26 і 27 чэрвеня бягучага года праходзіла вельмі цікавае мерапрыемства пад назвай **„Сакольскі арыент — праўда і легенда“.**

Аснову праграмы склала навукова-папулярная сесія, якая адбывалася ў канферэнцыйнай зале ўпраўлення гміны і горада Саколкі.

У праграме было аж дванаццаць дакладаў на тэмы, у большай ці меншай меры звязаныя з мінулым і сучаснасцю татарскага насельніцтва, што пражывае ў Польшчы, і перш за ўсё на Сакольшчыне. К. Грыгайціс прадставіў *„Нарыс па гісторыі пасялення татараў у Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы“*, падкрэсліваючы, што першыя сталыя жыхары татарскага паходжання паявіліся на нашых землях у XIV стагоддзі і яны адразу актыўна ўключыліся ў тагачаснае грамадскае жыццё свае новай айчыны. *„Татары ў польскай этнаграфіі“* — гэта даклад др-а Я. Камоцкага, які заўважыў, што ўсё ж у польскай народнай творчасці амаль зусім не гаворыцца аб татарах — сталых жыхарах Польшчы, затое многа займальных легендаў, прыказак і песень звязана з татарскімі набегамі на польскія землі. Праф. др І. Тлочэк у дакладзе *„Архітэктура мячэцяў на Беласточчыне“* на падставе абшырнага аналізу мусульманскага сакральнага будаўніцтва на свеце выказаў меркаванне, што мячэць у Багонніках пабудавана па ўзору, узятаму аж з Самарканда, а ў архітэктуры мячэці ў Крушынянах відавочны ўплыў каталіцкіх касцёлаў усходняй Польшчы. Мгр Г. Белаус-Камінская ў сваім выступленні *„Іслам польскіх татараў“* прадставіла вельмі маляўнічую карціну вераванняў і абрадаў сённяшніх сакольскіх татараў, падкрэсліла аграмадны ўплыў мясцовых беларускіх народных звычаяў, а таксама праваслаўя і каталіцтва на абрадавасць і вераванні сакольскіх татараў-сунітаў. Паставіўшы сабе пытанне *„Які характар мае пісьменнасць польска-літоўскіх татараў?“* др Т. Майда адказаў на яго ў сваім дакладзе: гэта былі творы, напісаныя арабскім алфавітам, але на беларускай мове і ў іх відаць аграмадны ўплыў беларускага фальклору. Др У. Юраў у дакладзе *„Татары ў польскай сярэднявечнай легендзе“* прыгадаў шэраг забытых ужо паданняў, якія бытавалі ў Польшчы і Еўропе XIII-XV ст.ст. аб ваяўнічых манголах, між іншым, легенду пра тое, што адсечаную польскаму князю Генрыку Пабожнаму галаву татарскія ваяўнікі кацілі па Польшчы і Венгрыі аж пад ногі свайму военачальніку хану Батыю. *„Перапляценне лёсу ў мінулым — караімы і татары“* — гэта даклад мгр Э. Пілецкага аб нашчадках колішніх хазараў — караімах, што прынялі юдаізм, і доўгі час насялялі стэпы паміж Донам і Волгай. Іх невялікая колькасць у пазнейшым часе пасялілася ў Вялікім княстве Літоўскім і адыграла заўважальную ролю ў грамадскім і культурным жыцці Беларусі, Польшчы, Літвы і Расіі. Яшчэ і сёння яны захавалі сваю мову, працягваюць літаратурную творчасць, выдаюць кнігі. Даклад мгр. П. Бараўскага *„Татарскія племянныя конныя атрады ў арміі Вялікага княства Літоўскага“* (XVI-XVIII ст.ст.), прачытаў мгр М. Канапацкі. У дакладзе падкрэслівалася значная роля, што адыгралі татарскія атрады ў шматлікіх войнах, якія вялі вялікія князі літоўскія і каралі польскія. А. Паласевіч прадставіў вынікі сваіх пошукаў матэрыялаў аб татарах у варшаўскіх архівах. Былі таксама і іншыя даклады, як напрыклад *„Мусульманская грамадскасць Варшавы раней і цяпер“* М. Жука.

Пасля дакладаў пачалася дыскусія, якая ўнесла таксама шмат цікавага аб колішнім і сённяшнім жыцці татарскага насельніцтва ў Польшчы, Беларусі і Літве.

У перапынках у працы сесіі яе ўдзельнікі знаёміліся з выстаўкай, якая знаходзілася ў суседняй зале і на якой экспанаваліся славутыя сакольскія дзвюхасноўвавыя дываны, а таксама матэрыялы па гісторыі татарскага насельніцтва на Сакольшчыне. Сярод іх знаходзіліся мугіры (па-мастацку выпісаныя або вышытыя вытрымкі з Карана), хамаілы (нешта накшталт малітвеннікаў), розныя выданні Карана і інш. У ліку навуковых даследаванняў аб татарах экспанавалася таксама манаграфія А. К. Антановіча „Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом і іх графіка-арфаграфічная сістэма“, выдадзеная ў 1968 г. у Вільнюсе, і шэраг іншых каштоўных выданняў.



*На выстаўцы сакольскіх дзвюхасноўвавых дываноў і матэрыялаў аб татарскім насельніцтве.*

На заканчэнне першага працавітага дня сесіі для яе звыш 80 удзельнікаў арганізатары падрыхтавалі ў мясцовым рэстаране „Рэлякс“ цікавую вечарыну з выступленнямі вакальна-музычнага калектыву Сакольскага цэнтра культуры, а кухня рэстарана сервіравала татарска-беларускія сакольскія прысмакі.

Другі дзень быў прадназначаны на краязнаўчую экскурсію ўдзельнікаў сесіі ў Багоннікі і Крушыняны, а для сакальчан выступаў вакальна-музычны калектыў Сакольскага цэнтра культуры пад кіраўніцтвам Э. Дымінскага, з дэкламацыяй выступаў З. Кардэцкі — акцёр з Беластоцкага тэатра імя А. Вянгеркі, сакальчане наведвалі таксама выстаўку дзвюхасноўвавых дываноў і матэрыялаў аб татарах, што знаходзілася ў залах праўлення горада і гміны.

І так, мерапрыемства было належна падрыхтаванае, спраўна праведзенае, а душою яго быў мгр Мацей Канапацкі, супрацоўнік Акруговага музея ў Беластоку.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## Ад родных ніў

## САМАВЯЗКА

*Снапавязка-самавязка,*
*Кругом сплецяна, як казка,*
*многа дроту, не паняці,*
*хтось надумаў нагібаці.*
*Адзін тонкі, другі грубы,*
*ўсё калёска, кругом трубы.*
*Лыч спярэдзі, з трубой справа*
*гладкі стол, а можа лава,*
*шылаў многа радам знізу,*
*аднэ з другім у паблізу.*
*Што ад споду, а што выжэй,*
*адно далей, друго бліжэй.*
*Гэто круціш, тоё пхаяш,*
*тут папусціш, там трымаяш.*
*Дзюба з дзіркаю загнёна*
*Клюе часта, як варона.*
*Сам люцыпар прыглядаўся,*
*ніц ён тут не разабраўся.*
*Калі трактар валачэ*
*крылы хілам нож сячэ,*
*збожа спелаё ўкладая,*
*само ўгору падавая.*
*Столь прыклепле, збоку сцісне,*
*шнюрком скруціць і заціcне.*
*Само спрытна вузла звяжа,*
*ножык выскачыт — абрэжа.*
*Пальцы доўгія даволі*
*шарпнут раз і — сноп на полі.*
*Нібы ўжо не трэба того,*
*сабе робіт зноў другого.*
*Гаспадар стаіт, смяецца,*
*аж жывот ў яго трасецца:*
*— Ну, халера, — кажа, — штука,*
*ўсё прыдумала навука!*

**А. Леўшук,**
Ціванюкі

(Працяг са стар. 1)

# Арэшкава

ла посыхаті; ждала, ждала маті сына, та й стала плакаті; злетіеў піевэнь на вороты, крыкнуў: „Кукарэку! нэ ўбачыш, маті, сына од ныніе до віеку“. Аднак матка абяртаецца ў шэрую зязюльку, ляціць на далёкую „украіну“ і там знаходзіць сваё дзіця ўжо нежывое, просіць яго: „Подай, подай, муой сыночку, хоч правую руку“, а ёй сын з магілы: „Ой, рады бы я, моя мамо, обіедвіе податі — труна нова есенова, нэ могу я ўстаті; труна нова есенова пліечы мніе стіскае; сыра зэмля, рыжы піесок очы засыпае“. Таму, развітаўшыся з „рэкрутам“, родныя лічылі яго выбыўшым назаўсёды з сяла, а пры падзеле гаспадаркі і будынкаў не пакідалі належнай яму „долі“. Але часам бывала, што такому „рэкруту“ пашчаслівілася вярнуцца ў родныя аселіцы. Да гэтага, ужо пажылога чалавека, адразу прыліпала мянушка „маскаль“, а мясцовыя ўлады давалі яму маленечкі кавалачак поля, г. зв. „гарод“. І так, за сваю 25-гадовую верную службу цару, нястачы, хваробы, раны і калецтва дажываў ён век у родным сяле на правах бяздомнага жабрака...

Падзеі студзеньскага паўстання 1863 г. упісаліся ў краявід Арэшкава ацененай вечназялёнымі елкамі ды белакорымі бярозкамі магілай шасці паўстанцаў, што тайком прабіраліся з Бельска ў большы атрад у Белавежскай пушчы, наткнуліся на казацкі атрад і тут ляглі, пашаткаваныя шаблямі.

Навакольная пушча заўсёды была падпорай вёскі. Яшчэ пры царызме арэшкаўцы працавалі пры вырубе і ачыстцы пушчы, вазілі дровы на продаж у Орлю і Бельск. А пасля першай сусветнай вайны працавалі ў англійскай фірме „Сэнчэры“. Фірма секла пушчу напавал, пасля яе засталася мо толькі якая дзесятая частка старога лесу.

У міжваенны перыяд у Арэшкаве дзейнічала ячэйка Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і гурток БСР Грамады. Іх члены прымалі актыўны ўдзел у забастоўках лясных рабочых у пушчы, вялі раз’ясняльную работу сярод сваіх аднавяскоўцаў, распаўсюджвалі камуністычныя лістоўкі і друк.

Гітлераўскія акупанты не мелі тут салодкага жыцця. Непадалёку ад вёскі, над рэчкаю Перабель, адзін з партызанскіх атрадаў заснаваў сваю базу. Былыя КПЗБ-оўцы і грамадаўцы дастаўлялі яму зброю, харчы, былі сувязнымі. 11 жніўня 1942 г. на чыгуначнай лініі паміж Гайнаўкай і Арэшкавам пайшоў пад адхон першы нямецкі цягнік, падарваны партызанамі, 28 красавіка 1943 г. — другі, 5 лістапада таго ж года — трэці. У 1944 г. часці I Украінскай партызанскай дывізіі імя С. Каўпака дайшлі аж да суседняй з Арэшкавам вёскі Вітава.

Першыя гады пасля вызвалення былі цяжкія. Дзейнічала тут банда „Бурага“, і ад яе братабойчых куляў загінула некалькі чалавек з вёскі. Тое, што не знішчылі акупанты і рэакцыйнае падполле, пад мятлу вымеў вялікі пажар у 1946 г.

Але год за годам Арэшкава адрадзілася з папялішчаў. Зямля тут слабая ды і нямнога яе, таму амаль усе мужчыны пайшлі працаваць на чыгунку і прамысловыя прадпрыемствы Гайнаўкі, моладзь жа падалася ў школы. Вёсцы ўсё прыбывала новых аб’ектаў. У 1955 г. грамадскім пачынам і пры дапамозе дзяржавы арэшкаўцы пабудавалі святліцу з рамізай, у 1963 г. — з’явілася прыгожая школа, у 1970 г. міжгуртковая машынная база. Вёска мае святло, тэлефон, краму, добрыя дарогі. Людзі імкнуцца вырасціць больш збожжа, выгадаваць больш дабытку на гаспадарцы і быць добрымі рабочымі на прадпрыемствах. Дзесяткі маладых людзей закончылі сярэднія і вышэйшыя школы, адсюль выйшлі многія інжынеры, настаўнікі, афіцэры Войска Польскага, шмат моладзі вучыцца ў Гайнаўцы, Беластоку, Варшаве, Любліне і іншых гарадах. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца тут Гайнаўскі беларускі ліцэй, настаўнікі якога Анатоль Корзун і Анатоль Скепка паходзяць з гэтага ж сяла.

Цяпер у Арэшкаве ўзровень жыцця непамерна павысіўся. Уздоўж яго вуліц штогод прыбывае новых мураваных двухпавярховых дамоў, на палі прыйшлі машыны. Толькі зубчаты скрай адвечнай Белавежскай пушчы па-ранейшаму вартуе наваколле.

**М. Гайдук**
**Фота аўтара**



*Магіла паўстанцаў з 1863 года.*



*Касцёр і дзіцячая песня закончылі дзень.*

# РУМЦАЙСАЎ ЛЕС

Ля самага аўтобуснага прыпынку „Плёскі“ машына паварочвае ўлева, хаваючыся ў лесе. Праз раскрытыя вокны разам з промнямі летняга сонца ўлятае арамат смалы. Раптам сосны расступаюцца і ўступаюць месца невялічкай палянцы, парэзанай асфальтаванымі сцяжынкамі, што хаваюцца між дрэў, адкуль, быццам бы грыбы з каляровымі шапкамі, спаглядаюць дваццаць тры турыстычныя домікі і дзесяць палатак. Уваход сцеражэ жалезная брама, над якой відаць надпіс „Румцайсаў лес“. Так, гэта дзіцячы лагер для дзяцей працаўнікоў ПКС-у. Уваходзім на асфальтаваную пляцоўку, вакол якой стаяць „жылыя домікі“ каланістаў. Дзяцей, аднак, не відаць. Але гэта якраз тая пара, што між снеданнем і абедам. Не сядзець жа ім у такую пагоду.

— Дзе можна знайсці кіраўніка? — пытаем старожа.

— Сапраўднага ці сённяшняга?

Робім здзіўленыя вочы, бо і сапраўды пакуль што нічога не разумеем. Але ідзем да сапраўднага. Тадэуш Кілюк, настаўнік адной з беластоцкіх школ, а цяпер кіраўнік лагера, шчыра нас вітае. Робім абход гэтай дзіцячай гаспадаркі. Насупраць доміка кіраўніка стаіць вялікі будынак. Гэта сталовая, якая адначасова змяшчае ўсіх тут прабываючых, гэта значыць 26 чалавек абслугі і апекі і 154 дзяцей. У дажджлівыя дні сталовая замяняецца ў святліцу, дзе паказваюць фільмы. Наладжваюць розныя даклады. А пасля вячэры сцены запаўняюцца музыкай. Дыскатэка на ўсю ваколіцу. Так, на ўсю ваколіцу. Дзякуючы гэтым дыскатэкам наладзілі супрацоўніцтва з дзецьмі, якія прабывалі ў лагеры ў Войшках. Весела тут было. Арганізоўвалі экскурсіі ў Гайнаўку, Белавежу, Райск і Бельск. Ездзілі ўласнымі сродкамі транспарту, бо трэба адзначыць, што ПКС у Беластоку забяспечыў лагер аўтобусамі і машынай „Жук“ для давозкі прадуктаў.

Але ідзем далей. За сталовай, у некалькіх метрах, стаіць вялікая прыбіральня і душ, утрыманыя ў ідэальнай чысціні. Цяпер зірнем уверх. На дрэвах паразвешвана дэкарацыя — зоры, сонца, месяц, а нават сам Румцайс з Ганкай і сынам Цыпіскам. Не хапае толькі сарокі, але затое чуваць яе голас. У домікі ды палаткі заглядаць не будзем. Вядома — ложкі, начныя шафкі, электрычнае святло... Варта яшчэ сказаць, што цэлая пляцоўка застаўлена прыладамі для гульняў. Тут і гойданкі, тут і стол для тэніса, тут і розныя драбінкі і шмат чаго іншага.

Але дзе ж дзеці? Дзе ж гэты „сённяшні“ кіраўнік? Давайце пашукаем. Выходзім з брамы, праз якую ўваходзілі. Раптам стромы спуск — і перад намі шырокая істужка Нарвы. А вось і дзеці. Хто купаецца, хто загарае. На хвалях шмат розных прылад для купання. Тут не толькі адпачываюць, але і вучацца. Ужо 26 дзяцей атрымала карты плавання. Але неяк дзіўна. Не відаць апекуноў. Хутка, аднак, усё высняецца. Сёння дзень каланіста. Сёння яны тут усё пільнуюць. Нават кіраўнік і то сярод дзяцей выбраны. Значыць, усё перамянілася.

Але час даць голас хаця адной з апякунак, зразумела, з сапраўдных.

— Як укладаецца супрацоўніцтва з дзецьмі? — звяртаемся да маладой дзяўчыны Жэні Казбярук.

— Ужо пяты раз выязджаю на калонії з дзецьмі, але на такіх яшчэ не была. Цудоўныя дзеці! Кіраўніцтва таксама цудоўнае. Наш кіраўнік, як бацька. Аб гэтым сведчаць тыя кветкі, што стаяць на стале ў яго пакойчыку. Гэта ж падарунак ад дзяцей у сувязі з Днём бацькі.

Сапраўды, тут усё дасканала. Нават камісія, якая прыязджала, дзіцячы лагер у Плёсках выдзяліла як найлепшы і з боку чысціні і з арганізацыйнага боку. Далі ім найбольшую колькасць пунктаў.

Ну, але час развітацца і пажадаць дзецям, якія будуць тут адпачываць пазней, такой самай цудоўнай пагоды і такой жа атмасферы, як тады, калі мы наведалі, гэта значыць між 7 чэрвеня і 2 ліпеня гэтага года.

**М. Шаховіч**
Фота Я. Цялушэцкага

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**ВЯСЕЛЬНАЯ**

Lento

Про-пыў бацько — ко ко — ны,
про-сыў Бо — га до-лі, жэб ты ді-тя
зво-зыў, жэб ты ді-тя зво-зыў до бо-жо-го
до — му, аж до бо-жо-го до — му.

*Пропыў батько коны,*
*просыў Бога долі,*
*жэб ты дітя звозыў,*
*жэб ты дітя звозыў*
*до божого дому,*
*аж до божого дому.*

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, і Кацярыны Місеюк, 1899 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ГАЙНАЎСКІ ЦПН

Узорна працуе станцыя ЦПН у Гайнаўцы. Тут чысціня і парадак, культурнае абслугоўванне і шырокі асартымент паслуг. У сезоне станцыя працуе цэлыя суткі.

З думкай аб турыстах быў адкрыты філіял гайнаўскай станцыі ЦПН у Белавежы, у зручным месцы побач чыгуначнага вакзала. Ён адкрыты ў гадзінах 8-17. Карыстаюцца з яго паслуг матарызаваныя турысты — краёвыя і замежныя. (ця)

## ПОСПЕХ „ФАДОМУ“

Фабрыка дамоў „Фадом“ у Беластоку выпускае будаўнічыя элементы, з якіх кожны год будуецца 12 000 пакояў. Яна — самая вялікая палёгка для будаўнічай прамысловасці. Беластоцкі „Фадом“ займае першае месца ў краіне ў спаборніцтве, якое арганізавала ведамства па справах будаўніцтва і ЦРЗЗ для ўсіх існуючых у краіне фабрык дамоў.

(ця)




*Юбілейны сцяжок.*

## Сцяжкі і значкі

З нагоды 20-годдзя „Нівы“ РСВ „Прэса“ выпусціла палатняныя сцяжкі і нагрудныя пластмасавыя значкі, прысвечаныя нашаму юбілею. Праектаваў іх наш рэдакцыйны мастак С. Рыбі. Можна іх набыць у нашай рэдакцыі. Сцяжок каштуе 43 зл. 50 гр., значок — 4 зл. 40 гр.

Калекцыянерам раім спяшацца, бо тыраж малы, і, відаць, не кожнага здолеем забяспечыць нашым сувенірам.




*Значок, прысвечаны 20-годдзю „Нівы“.*




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**Сацыяльныя вершы.** Разгледзім два творы, якія належаць да цыкла песімістычных карцін беларускага грамадскага жыцця. Першы з вершаў мае загаловак „Татка“, другі — „Каліва праўды“.

Верш „Татка“ гэта дыялаг паміж малым хлапчуком і яго маткай. Размова датычыць бацькі. Дыялаг у вершы спецыфічны, толькі адзін раз выказваецца ў творы сын і адзін раз маці. „Татка“ — гэта твор балючы. Змест яго датычыць адной з найбольш адмоўных з'яў у жыцці беларускага селяніна — п'янства. Сынок пытаецца ў маці:

*„Скажы, матуля, чаму татка*
*Штодзень вясёлы йдзе з шынка:*
*Пяе, гамоніць сам з сабою,*
*Па вёсцы скача гапака?“*

Адказ маці напоўнены смуткам і журбою:

*„Пакінь, сынок, не ўглядайся.*
*Шынок — пагібель мужыка,*
*І бацька наш дурэе часта.*
*Таму жывецца дрэнна нам“.*

П'янства прадстаўлена ў вершы як прычына сямейнага сораму, як прычына сямейнай нядолі, як прычына сямейнага разладу.

Верш „Татка“ ўзнімае вельмі істотную сацыяльную праблему. Трэба аднак падкрэсліць, што з боку мастацкасці верш слабаваты, а нават прымітыўны. Аўтар, імкнучыся да ўзмацнення ўражання, уплёў у змест верша без выразнай патрэбы сабаку, які вые тады, калі яго п'яны гаспадар спявае. Ненатуральна і кніжна выглядае ў вершы выказванне хлапчука пра бацьку.

З усяго сказанага вынікае, што верш „Татка“ нельга залічыць да станоўчых дасягненняў пісьменніка.

Верш „Каліва праўды“ прысвяціў паэт Янку Купалу. У сувязі з тым, што верш кароткі, варта яго прывесці ў цэласці:

*Памалу, без спеху, пяхотай па ночы*
*Да веку дваццатага йшлі:*
*Дзе вобмацкам трохі, заплюшчыўшы вочы,*
*Дзе бокам, дзе ракам паўзлі.*
*Сяк-так, чакаючы долі*
*І лепшага шчасця ўпярод,*
*А ў жыцці сягодня, ні заўтра — ніколі,*
*Злыднёў не пазбудзе народ!*
*Прыгледзьцеся, злыдзень як часта ў разладзе*
*Выгоды пільнуе сабе:*
*Прыкінуўшысь другам, на голаву ўсядзе*
*І ездзіць, як пан, на табе.*

Прыведзены твор значна адрозніваецца ад усіх, ужо прадстаўленых намі вершаў. Ва ўсіх папярэдніх творах паэт выступаў у абарону адзіночных герояў: жабрака, селяніна, жонкі, дзіцяці, у прыведзеным вышэй вершы аўтар прамаўляе ад імя не толькі паасобных людзей, але гаворыць аб крыўдзе народу.

Верш „Каліва праўды“ ад пачатку да канца пранізаны песімізмам, безнадзейнасцю, бязвер'ем у будучыню. Цяжка сказаць, калі верш быў напісаны. Бадай у перыяд „Нашай нівы“. Вымова твора простая: імкненне народу да вызвалення, надзеі на лепшае абсалютна не пацверджаны і не апраўданы рэчаіснасцю, сённяшнім і заўтрашнім днём. Паводле аўтара, зло ў народным жыцці — з'ява вечная: „А ў жыцці сягодня, ні заўтра — ніколі злыднёў не пазбудзе народ“.

У творы „Каліва праўды“ Паўловіч апрануўся ў вопратку панурага прарока, прапаведуючага бяду і няшчасце.

На падставе ўсіх прыведзеных дагэтуль вершаў можна было б зрабіць фальшывы вывад аб тым, што Паўловіч, гэта паэт татальнай безнадзейнасці і песімізму. Вершы, якія разгледзім пазней, пераканаюць нас, што песімізм у паэзіі Паўловіча — з'ява даволі рэдкая і непытовая для дамінуючага настрою яго творчасці.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніліся мне цікавыя сны. Што яны абазначаюць?

Была я ў гарах. Цудоўны, каляровы пейзаж. Сонца свяціла. А я баялася хадзіць па гарах. Хтось мяне нагаварваў, каб я прайшла праз прорву. І я неяк пералезла ракам. Потым убачыла раку з чыстай празрыстай вадой. Я легла на беразе і падумала: „Трэба было б напіцца гэтай вады“. Але не рашылася. Кругом быў прыгожы, уквечаны луг. Цудоўныя кветкі. Але бачу: кветкі штучныя.

Снілася мне таксама, што я была ў тэатры на нейкім спектаклі.

А што такое, калі сняцца дзіцячыя цацкі?

Снілася яшчэ, што я танцавала з мужам. Знаёмы запрашаў нас на новую кватэру, але мы не пайшлі.

І яшчэ адзін цікавы сон мне сніўся. Быццам хацела я купіць кажух. Адразу мне здалося, што ён прыгожы, цудоўны, каляровы. Пазней бачу: не, ён жа брыдкі, нейкія латы на ім з палатна. Ашуканства... І я не купіла кажуха.

Данка

Ну, што ж, сны цікавыя, але і не найлепшыя. Большасць з іх гаворыць аб тым, што нехта (фальшывыя сябры) пастаянна ашукоўвае вас. У першым сне кветкі, якія вам здаваліся цудоўнымі, аказаліся штучнымі. У другім сне вы былі ў тэатры, а гэта гаворыць аб фальшывых сябрах. Фальш відаць і з трэцяга сну. Ізноў тое, што адразу здавалася вам прыгожым і каляровым, аказалася брыдкім і палатаным. Латы на вопратцы абазначаюць небяспечную гульню.

Дзіцячыя цацкі вы бачылі... Займаюць вас бессэнсоўныя захапленні непатрэбнымі справамі, страціце шмат часу і грошай.

Дарэмная праца чакае вас і таму, што вы ў сне танцавалі з мужам. Вы не хацелі яму здрадзіць (не пайшлі на новую кватэру сябра). А ён, здаецца, гэтага недаацэньвае...

**Астрон**

## SANDRO GIACOBBE



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

ЗАКАЗВАЎ *Ян Врублеўскі з Бельска.*

## Ці ведаеце, што...

... у сучасны момант у спецыялістычных секцыях ЛОК, як сувязі, мадэльшчыкаў, матаровых, стралецкіх, займаецца звыш 3000 членаў Лігі аховы краіны.

...аб'яднанне ЛЗС у Польшчы налічвае звыш 1 млн. членаў.

...у нашай краіне дзейнічае больш 500 дэкламатарскіх клубаў і гурткоў.

...каля 5 тысяч паасобных дрэў у Польшчы прызнана за помнікі прыроды.

...на свеце ёсць больш 40 тысяч гатункаў рыб.

...ва ўсім свеце штогод узнікае 300 тысяч землетрасенняў.

...у вадзе акіянаў знаходзяцца розныя хімічныя субстанцыі, у тым ліку і золата, якога ёсць некалькі мільёнаў тон.

...Ліга аховы прыроды ў нашай краіне налічвае 1200 тысяч членаў, згуртаваных у звыш 11 000 гуртках ЛОП. Гэтая папулярная арганізацыя з вялікім поспехам вядзе конкурс пад лозунгам „Прырода — твой сябра“. (ця)

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Было гэта даўно, быў я 18-гадовым хлопцам. А ёй было толькі 17 год, звалася Аня. Мы вельмі кахалі адзін другога. Верылі, што як будзем паўналетнімі, пажэнімся. Мяне забралі ў армію. Сумаваў я вельмі за Аняй, пісалі мы часта пісьмы, а калі толькі атрымаў водпуск, дык маланкай імчаўся да яе. Пад канец маёй службы я перастаў атрымліваць пісьмы ад Ані. Аб усім даведаўся намнога пазней. Толькі вяртаючыся з войска дамоў, сустрэў я сябра, які мне сказаў, што Аня выйшла нядаўна замуж і выехала жыць у горад. Які жах я тады перажыў! Не ведаў — ісці дамоў, ці павярнуць назад і ісці як найдалей ад вёскі. Дадому аднак прыйшоў. Тут пачалі мяне суцяшаць бацькі, сястра, сябры. Неяк уладзіўся я на працу ў горад. Ішоў час, гаіліся раны. Пазнаёміўся з дзяўчынай, якая мне спадабалася, ажаніўся, маю маленькага сынка. Жыву шчасліва. Але вось аднойчы атрымаў я пісьмо (шчасце, што не папала яно ў рукі жонкі) ад Ані. Страшна жалілася на сваё жыццё. Піша, што гэта бацькі яе змусілі выйсці замуж за старэйшага мужчыну. Цяпер ён правініўся на працы і сядзіць у турме. А яна з пяцігадовай дачушкай адна. Знайшла мой адрас і вырашыла напісаць, хаця ведала, што я жанаты. Верыць у маё каханне і спадзяецца, што маглі б мы яшчэ цяпер вярнуць страчанае і быць назаўсёды разам. Прапануе спатканне. Чакае майго адказу. Як паступіць, парай, Сэрцайка!

Віця

Віця! Не аднаўляй кантактаў з Аняй. Не стрымала яна слова, зламала тваё сэрца, ты столькі перажыў, а цяпер твае раны загаіліся, шчаслівы ты з сям'ёй, дык не руйнуй яе. Яна агледзелася, а як магла пакінуць цябе тады, калі была табе так патрэбна? Сама кашы наварыла, хай сама і есць.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў




### ЯК АПРАНУЦЦА НА ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК?

Модна і зручна. Каб было прыгожа і адначасова добра хадзіць у лес, на возера, на прагулку.

Можа гэта быць так званая „фартуховая“ сукенка. Яе можна выкарыстаць у найцяплейшы дзень. Яна з кароткімі рукавамі кімано. Унізе крыху расшыраная бакавымі швамі. У таліі сукенка сцягнута гумкай (гумка ўцягнута пад нашыты зверху паясок).







Калі вы збіраецеся на прагулку, то варта апрануць штаны-бермуды. Яны прамыя, без бакавых швоў. Кішэні накладныя. Уцягнуты ў сярэдзіну паясок. Да гэтага модная блузка ў палоску з рукавом кімано.

У халаднейшыя дні можна апрануць доўгія штаны з моднай блузкай у палоску. У яе доўгія рукавы з манжэтамі. Карчык у папярочную палоску. Пад шыяй стаячы каўнерык. **Сяброўка**




Забраўшы афіцыйную пошту, партызаны пакінулі раз'езд.

Дзёрзкі налёт на цягнік з ваяводам Даўнаровічам напалохаў не толькі мясцовыя ўлады, але і ўрад. І было над чым ламаць галаву чыноўнікам усіх рангаў: незадоўга перад гэтым, ноччу з 3 на 4 жніўня, атрад Мухі-Міхальскага, разбіўшы моцны паліцэйскі гарнізон у Стоўбцах, вызваліў з турмы зняволеных, сярод іх — кіруючых работнікаў ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі І. К. Лагіновіча (Паўла Корчыка) і С. А. Мертэнса (Стэфана Скульскага). І вось на табе, не паспелі паны апамятацца ад гэтай нечаканасці, як новы налёт Мухі-Міхальскага...

На расправу з партызанамі адразу ж былі кінуты паліцэйскія сілы, воінскія часці. Толькі з Лунінца і яго ваколіц выйшла 110 паліцэйскіх і 4 узводы пяхоты. Газета „Правда“ ў карэспандэнцыі з Варшавы паведамляла, што ў аблаве на партызан прымаюць удзел курсанты кракаўскай і млаўскай паліцэйскіх школ, у Лунінец выехалі чыны ахранкі.

Але міністру ўнутраных спраў падалося, што гэта замала. Ён настойваў на тым, каб у карных экспедыцыях удзельнічала як мага болей воінскіх часцей. І ён дамогся свайго. Варта было толькі атрымаць „неправеранья даденыя аб тым, што ў раёне Палонка-Перадзел-Міронім-Прыбарава хаваецца партызанскі атрад у складзе 80 чалавек“, як туды тэрмінова былі кінуты часці 20-ай пяхотнай дывізіі і 9-ай асабовай кавалерыйскай брыгады. З салдат дывізіі і брыгады былі сфарміраваны шматлікія знішчальныя каманды, якім на дапамогу давалі паліцэйскіх і паштовых галубоў. Усе каманды атрымлівалі канкрэтныя заданні, і ўсе яны абавязаны былі „звяртаць асаблівую ўвагу на хутары, падазроных арыштоўваць, зброю канфіскоўваць“.

Вялізная тэрыторыя была забіта паліцыяй і салдатамі. Пачаліся масавыя арышты. Аднак, як пісаў „Работнік“, „многія суддзі і нават некаторыя паліцэйскія чыноўнікі сумняваюцца — ці арыштаваны хто-небудзь з сапраўдных віноўнікаў. Бо арыштаваны ж сотні людзей“.

Усё гэта рабілася хутчэй для таго, каб хоць трохі супакоіць напалоханых памешчыкаў і чыноўнікаў. Дзесяць арыштаваных — Адам Курыловіч з маёнтка Адэлін, Павел Барташ з вёскі Дзяніскавічы, Кірыла Новік з вёскі Гаўрыльчыцы, Кузьма Нарымончык з вёскі Любань, Фёдар Сафронаў з вёскі Лунін, Сава Соц з вёскі Волька, Антон і Фама Палуяны з хутара Тавалка, Іван Леўшыц і Мікіта Клюка з вёскі Ядаўка — былі аддадзены ваенна-палявому суду.

Аднак нават гэты вельмі хуткі на жорсткую расправу суд вымушаны быў прызнаць, што ніхто з арыштаваных не мае адносін да нападу на цягнік з ваяводам, і вызваліў іх з-пад варты.

Памешчыкі, рэакцыйны друк былі незадаволены: сапраўдных удзельнікаў нападу на цягнік карнікі так і не захапілі. А партызаны дзейнічалі. Буржуазныя газеты абвінавачвалі паліцыю ў баязлівасці і няздольнасці выконваць свае абавязкі. „Мы разумеем, што кожны даражыць жыццём, аднак хто не хоча рызыкаваць, хай лепей служыць у касцёле, а не ў паліцыі“, — з'едліва пісала газета „Кур'ер польскі“. „Пан ваявода, у адстаўку!“ — згаджаўся з ёю „Кур'ер інфармацыйны“. „Жэчпаспаліта“ абуралася ўчынкам пінскага старасты Тамашэвіча. Падумаць толькі! Гэты староста арганізаваў у Пінску малебен з падзякай за выратаванне баязліўца ваяводы. „У адстаўку ваяводу і яго прыспешніка старасту!“ — патрабавала газета.

Што ж датычыць Даўнаровіча, дык пасля публічнага лупцавання ён, вядома, ужо не мог заставацца ваяводам і падаў у адстаўку. Адстаўка была прынята. Але і пасля гэтага дасціпныя журналісты не давалі Даўнаровічу спакою. І экс-ваявода не вытрываў, выклікаў свайго галоўнага крыўдзіцеля дэпутата сейма журналіста Рабскага на дуэль.

Прыняўшы адстаўку Даўнаровіча, урад доўга ламаў галаву, каго прызначыць новым ваяводам разгневаных зямель — цывільнага чыноўніка ці генерала.

Урад вырашыў аб'явіць Палескае ваяводства на асадным становішчы і абмяркоўваў план перакідкі ў Заходнюю Беларусь новых кавалерыйскіх часцей для барацьбы з партызанамі. Але сказаць аб гэтым афіцыйна — тое самае, што прызнаць сябе няздольным справіцца з партызанскім рухам, які ўсё ўзрастаў. І таму замест цывільных чыноўнікаў ваяводамі на крэсах былі прызначаны генералы. Ім даваліся неабмежаваныя паўнамоцтвы. Палескім ваяводам стаў генерал Младзяноўскі. „Над крэсамі навіс цень нейкага асаднага становішча, — пісала газета „Жэчпаспаліта“. — Прызначэнне ваяводамі генералаў — гэта, па сутнасці, стварэнне толькі на крэсах генерал-губернатарстваў замест існаваўшых да гэтага часу ваяводстваў“.

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## БУДУЮЦЦА І МАЮЦЬ ГРОШЫ

Цяпер мода пайшла на мураванкі, і ў вёсцы Тапаркі, Кляшчэлеўскай гміны, найхутчэйшы тэмп, бо будуецца аж 5 мураванак. А вёска невялікая. У гэтай вёсцы прагрэс пайшоў пасля таго, калі былі падзелены калоніі, г. зн. калі прайшла камасацыя, 4-5 гадоў назад. Пасля гэтага сяляне пачалі гадаваць многа кароў і за малако маюць добрыя грошы (у месяц вёска мае за малако каля 100.000 зл.).

У вёсцы 60 гаспадароў, і за кароткі час амаль кожны пабудаваў мураваныя інвентарскія будынкі. Цяпер чарга за жылымі дамамі. Вёска мае свайго майстра, які будуе мураванкі ўсім і ўсюды. Іван Троц сапраўды добры майстар.

**М. Панфілюк**

## ГАЙНАЎСКІ „ОРБІС“

Здаўна я ўжо збіраўся напісаць аб тым, што адно памяшканне будынка № 45 на вуліцы 1 Мая ў Гайнаўцы амаль год стаіць нявыкарыстаным. І не паспеў!

А 10 чэрвеня г.г. у памяшканні гэтым размясцілася аддзяленне бюро падарожжаў „Орбіс“. Такі паслуговы пункт быў ужо даўно патрэбны гораду. Зараз не трэба ехаць у Беласток, каб аформіць замежны выезд, ці купіць білет на пазнейшае падарожжа.

Унутранае прыбранне надта цікавае, а выкладзены на адхоне перад увахода дам белымі мрамарнымі плітамі надпіс „Орбіс“ сваім хараством запрашае ўсіх да наведвання гайнаўскага аддзялення.

**Сярсацкі**

**Ужо раз пісалі**

## БАЛАГАН КАЛЯ КРАМЫ

У мінулым годзе я пісаў у „Ніву“ аб тым, што на тэрасе малочнай крамы на вуліцы Варынскага ў Гайнаўцы нехта абламаў верх бетоннага стала. Да гэтай пары ніхто з праўлення гайнаўскага каапeратыва па вытворчасці малочных прадуктаў не зацікавіўся гэтай справай, і абломаны верх стала ляжыць на тэрасе.

Бяздушнасць адказных за эстэтыку крамы на гэтым не канчаецца. Амаль кожны дзень на тэрасе валяюцца паперы ад марожанага і тварагу. У прыгожых бетонных кветніках, што каля ўвахода, царыць пустазелле.

Няўжо працаўнікі каапeратыва малочнай вытворчасці не заходзяць у краму і не бачаць гэтага?

**Сядзем**




### ДАРОГА

Рассыпаюцца зоры па небе
Залатымі агнямі ўдалі,
Разыходзяцца людзі па свеце,
Па дарогах уласнай судзьбы.

А дарогі бываюць мглістыя,
А дарогі бываюць крутыя
І бягуць у жыцці нястрымана,
Як ў прасторы агні залатыя.

Перайшлі, след астаўся ў дарозе —
Пакаленню працоўнаму шлях,
Не круты, а знаёмы і просты —
Ў міравых гартаваны баях.

Пішуць ночкаю зоры у небе
Залатымі агнямі ўдалі
Аб людзях, ўжо каторых не стала —
Як складаць шлях жыццёвы ішлі.

**Міша Андрасюк,**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

### У РЫБАКАХ...

*У Рыбаках вясковы склеп,*
*радам парасоны,*
*а пад імі сядзят*
*мужыкі вясёлы.*
*Прадаст баба яец кілё*
*і грошы схавае,*
*а мужык іх падкрадзе*
*і ўсе прапівае.*
*Жонка робіт увесь час,*
*робіт без аглядку,*
*але ў гаспадарцы*
*ўсё німа парадку.*
*Яна драпае ўсё голаў,*
*як жа тут пражыці,*
*калі муж яе так*
*будзе далей піці.*

**Насця Грыко**

## НАРАЎКА ПРЫМАЕ ТУРЫСТАЎ

Нараўка з году ў год становіцца больш цікавай мясцовасцю для турыстаў. Тут цячэ рака (такой жа назвы), праходзіць турыстычны шлях. У будучыні, як пісала „Ніва“, будзе басейн у Семяноўцы. Кожны год праходзіць і праязджае многа турыстаў. Асабліва ў нядзелі і вольныя суботы можна ўбачыць многа людзей над рэчкай. Таму і ўлады гміны падумалі аб турыстычным сезоне. Усе гандлёвыя ўстановы адноўлены. Ля рэчкі ў Нараўцы адкрыты аж 12 гадзін кіёск з мінеральнымі напіткамі. А ў кожнае свята ад 10 да 16 гадзіны адкрыта і спажывецкая крама.

У вольныя суботы ў пунктах адпачынку адбываецца продаж з самахода такіх тавараў, як хлеб, ліманад, хлебны квас і г.д.

Мясцовая гаспода вядзе гадоўлю 60 штук свіней, каб не забракла мяса. У час турыстычнага сезона гарачыя абеды будуць прадавацца да 18 гадзіны.

Усе ўстановы гміны перад сезонам апрацавалі свае планы працы.

**Аляксандр Закройшчык**

## ЗУБРЫНЫ ЮБІЛЕЙ

У ліпені г.г. выпадае 30 гадавіна ахвяравання польскімі ўладамі 5 штук зуброў Беларускай ССР. Былі гэта першыя зубры, якія далі пачатак гадоўлі ў беларускай частцы Белавежскай пушчы і ўвогуле ў СССР. Бо трэба ведаць, што ў 1946 г. у Савецкім Саюзе захаваўся толькі адзін зубр з лініі каўказска-белавежскай. Такім чынам, польскі падарунак быў вельмі каштоўным.

Пагадненне паміж міністрам лясніцтва Польшчы і прадстаўнікамі БССР, у сілу якога ўваходзіла перавядзенне гэтых 5 штук зуброў, было заключана 5 ліпеня 1946 г. Зубры гэтыя мела перадаць белавежская запаведная гадоўля. Праца пры перавядзенні пачалася 13, а закончылася 18 ліпеня. З польскага боку ўдзел у ёй прынялі інж. Т. Шчэнсны з аддзела аховы прыроды міністэрства лясніцтва, др інж. Я. Е. Карпінскі — дырэктар Нацыянальнага парка ў Белавежы і др Я. Жабінскі ад імя польскага аддзела Міжнароднага таварыства аховы зуброў.

Беларускі бок прадстаўлялі намеснік начальніка Галоўнага праўлення запаведнікаў пры Савеце Міністраў БССР — Акінчыц і навуковыя супрацоўнікі таго ж праўлення — Заблоцкі і Рухледзьеў, а таксама дырэктар дзяржаўнага запаведніка „Белавежская пушча“ — Грандзілеўскі.

Групы падараных зуброў састаўлялі 2 самкі „Пуля“ і „Пурпура“ і 3 самцы „Туф“, „Пугінал“ і „Пустош“. Акт перадачы быў падпісаны 18 ліпеня. Момант гэты знімала на кінастужку экіпа беларускіх кіназдымшчыкаў. Перададзеныя зубры былі лакалізаваны ў беларускай частцы Белавежскай пушчы на тэрыторыі даўнейшага надлясніцтва Каралёвы Мост.

Пачатак гадоўлі меў нейкія цяжкасці. Праз 4 гады 2 прывезеныя самкі нарадзілі 6 цялят, але 3 з іх здохлі. Прызнана, што здарылася гэта таму, што самкі і самцы былі блізка з сабой пароднены. Тады з Белавежы ў 1949 г. прывозяць новую партыю зуброў, і пачынаецца скрыжоўванне міжлінейным метадам, які ўдаўся. За перыяд 1950-55 г.г. нарадзілася 13 цялят, з якіх выхавана 12, а за перыяд 1956-60 — 40 цялят (выхавана 38). У 1953 г. зубраводы з беларускай часткі пушчы выпускаюць на адкорм за запаведную агароджу 7 1- 2-гадовых зубранят, і ад таго моманту пачынаецца тут свабодная гадоўля. Адначасова пастаянна выключаюцца з чарады штукі, змешаныя з каўказскімі зубрамі, г.зн. з лініі каўказска-белавежскай і астаўляюцца толькі чыстай белавежскай крыві. З свабоднай пародай удаецца гэта зрабіць у 1964 г., з чарадой за агароджай — некалькі гадоў пазней. Сёлета ўся гадоўля ў беларускай частцы Белавежскай пушчы налічвае каля 90 штук.

Беларускія зубраводы сваю гадоўлю вядуць у супрацоўніцтве з польскімі. За гэты перыяд адбыліся 4 савецка-польскія канферэнцыі, прысвечаныя гадоўлі зуброў у Белавежскай пушчы (у 1961 г., у 1963 г., у 1967 г. і ў 1971 г.). Даклады з трох першых апублікаваны ў двух асобных тамах. Галоўным зубраводам і зубраведам з беларускага боку з'яўляецца Людміла Н. Корачкіна.

**П. Байко**

## ЦІ БУДЗЕ ПАРАДАК У ЛАСІНЦЫ?

Мне давялося пабываць у Ласінцы, што ў гміне Нарва. Вельмі мяне зацікавіў непарадак на вуліцы. Амаль палова дарогі праз вёску — гэта лужыны вады і ямы. Праезжыя пытаюцца, ці ёсць тут гаспадары, а мне здаецца, што гаспадар — гэта найперш гміна. Цяпер там ездзяць аўтобусы, і нічога дзіўнага, што праехаць праз Ласінку, дык можна і папсаваць машыну, або і язык прыкусіць. Можа, пара ўжо ўладам зацікавіцца гэтай дарогай.

**Аляксандр Закройшчык**

## КАРЫСНАЯ ПРАКТЫКА

Перадматуральныя класы групы сельскагаспадарчых школ у Бельску ад 14 чэрвеня да 24 ліпеня г.г. былі на прафесіянальнай практыцы на сельскагаспадарчых прадпрыемствах. Там яны павышалі свае веды і збіралі інфармацыі да перадэкзаменацыйных апрацовак. З агульнага ліку 79 асоб найбольш было ў СКР-ах (42) і ПГР (21).

У гэтым годзе за працу практыкантам плаціць ужо не школа, як было да гэтага года, але само прадпрыемства. Гэта цясней звязвае моладзь з будучым месцам працы.

**Мікалай Няплоха**

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, МОЙ ГОРАД!

Нядаўна праязджала я праз Бельск Падляшскі. З гэтым горадам звязаны мае ліцэйныя гады. Калі я яшчэ вучылася, Бельск не быў такім прыгожым горадам, якім аказаўся ў час майго падарожжа. Цяпер многа змянілася тут: выраслі новыя шматпавярховыя дамы, магазіны з цікавымі вітрынамі, новы школьны інтэрнат. Старое адыходзіць, а на яго месцы расце новае.

Думаю, што праз некалькі год Бельск будзе такім, што і самі мы, яго выхадцы, яго не пазнаем. І калі мой цягнік ад'язджаў, я глядзела на новае жыццё бяльчан і думала: „Расці і прыгажэй, мой горад!“

**Джэны А.**

## БРАКАРОБЫ

На аб'екце Фальваркі ІІ, дзе праводзяцца меліярацыйна-дранажныя работы для вёсак Малынка, Патока, Белкі, Альшанка, дзеецца беспарадак, а вось падаю некалькі фактаў, якія вельмі колюць у вочы.

У вёсцы Белкі восенню мінулага года на выкапаных меліярацыйных равах пазакладалі цэментавыя цэмбравіны для праезду сялян на сенажаць.

Цэмбравіны пазакладалі, а засыпаць не было каму па сённяшні дзень, г.зн. 13 чэрвеня. Так што сялянам на сенажаць трэба ехаць або самалётам, або акружной дарогай у 7 разоў далей, а найлепей дык зайсці і самому наладзіць масток, засыпаючы цэмбравіны.

Яшчэ горш дзеецца з дранажнымі работамі. Мне давялося гаварыць з жыхаром вёскі Патока, на зямлі якога паміж засеяным жытам і травой праходзіць дранаж. Аператар, які машынаю капаў роў, замест павярнуць так, каб зямля ляцела на траву, зямлю накіраваў у збожжа, марнуючы яго.

Мне здаецца, што тут віна кіраўніцтва прадпрыемства, якое мала ўвагі звяртае сваім рабочым, каб яны як мага менш нішчылі збожжавыя пасевы, але і вялікую віну маюць самі рабочыя, якім не хочацца аб'ехаць 100 метраў далей дарогай, а лепш знішчыць пасевы.

Гэта так здаецца, што маленькая справа — раз праехаць трактарам па збожжы. Але калі здараецца гэтак штодзённа, тады вялікія затраты ў гаспадара.

*Бракаробы, бракаробы,*
*Агляніцесь на сябе!*
*Ці ваш бацька не сялянін,*
*Ці сярпом жыта не жне?*
*Пашануйце наша збожжа —*
*Яно хлеб для вас дае,*
*Усім напэўна будзе лепей —*
*Для цябе і для мяне.*

**М. Лук'янюк**




**Кацярына Янушка, вёска Рудня (гміна Шымкі).** Газета, пра якую вы пыталіся, цяпер не выдаецца.

**Сцяпан Ляўчук, вёска Янава (гміна Нараў).** Вашу справу мы разглядалі ў дырэктара малачарскага прадпрыемства ў Гайнаўцы. Чакайце вынікаў.

(ця)

## МАЛАДЗЁЖНЫ ЧЫН

Моладзь сяла Крывяцічы ўпарадкавала плошчу каля мясцовай святліцы. Навезлі сюды чарназёму, пасадзілі кветкі. Добра працуе тут кіраўнік клуба Уладзімір Томчук.

**І. Кірызюк**

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

## ПРА АЎТОБУСЫ ПКС У БЕЛЬСКУ

У 19 нумары „Нівы“ апублікавалі мы інфармацыю нашага карэспандэнта „Непарадкі на станцыі ПКС у Бельску“. Ён крытыкаваў сітуацыю з білетамі, купленымі на станцыі ў Бельску. Часта бывае так, што аўтобус, на які маеш білет, не прыедзе, а шафёр наступнага аўтобуса не хоча пасажыра з тым білетам везці. Крытыкаваў таксама доўгія чэргі за білетамі ПКС.

Ніжэй прыводзім адказ ПКС у Беластоку, які выясняе, што пасажыр з білетам можа ехаць наступным аўтобусам, калі пераштампуе яго ў білетнай касе. Раім усім пасажырам трымацца гэтага права.

Можна разумець цяжкасці ПКС з недахопам аўтобусаў, шафёраў, запасных часцей, адначасова звяртаем аднак увагу нашых чытачоў, што чытачы адказаў ПКС на нашу крытыку могуць знайсці месца працы, паколькі прадпрыемства ПКС патрабуе шафёраў. Тады і аўтобусная камунікацыя будзе больш рэгулярнай.

Odpowiadając na notatkę prasową zamieszczoną w gazecie „Niwa” nr 19/1054 (w 9.V.76 r.) dot. dworca PKS w Bielsku Podl. Oddział Osobowy PKS w B-stoku informuje, że zgodnie z obowiązującymi przepisami w komunikacji autobusowej pasażer ma prawo jechać tym kursem, na który wykupił bilet. **W przypadku jednak braku właściwego autobusu, ma on prawo skorzystać z przejazdu każdym następnym autobusem, jadącym w danym kierunku po uprzednim** przestemplowaniu biletu w kasie biletowej. Podobnie przedstawia się sprawa przejazdów pasażerów posiadających bilety m-czne. W przypadku nie skorzystania z przejazdu w danym kursie, podróż może być w każdym innym, o ile są wolne miejsca w autobusie.

Odnośnie obsługi podróżnych na dworcu PKS w Bielsku Podl. informujemy, że jest to budynek (barak) PKP, w którym tut. Oddział czasowo dzierżawi jedno pomieszczenie na sprzedaż biletów. Do chwili wybudowania wspólnego dworca PKP-PKS będą występowały trudności we właściwej obsłudze podróżnych.

**Za-ca Dyrektora**
d/s Przewozów Oddziału Osobowego PKS
w Białymstoku
**Ryszard Lider**

## З ГАЙНАЎКІ Ў АГАРОДНІКІ

А ў нумары 20 была невялікая інфармацыя, якая таксама датычылася аўтобусаў ПКС. Называлася „Кепска з аўтобусамі“ і крытыкавала нерэгулярнае курсаванне аўтобуса з Гайнаўкі ў Агароднікі. Рэч датычылася ў асноўным справы, што аўтобус гэты часта ўвогуле не даязджае да Агароднікаў.

Як сведчыць ніжэй прыведзены адказ прадпрыемства ПКС у Беластоку, справа была даследавана спецыяльна, і крытычныя ўвагі карэспандэнта пацвердзіліся. Тлумачэнні ПКС, як заўсёды, зразумелыя, але найважнейшае абяцанне, што нягледзячы на цяжкасці, яны будуць старацца працаваць штораз лепш. Чакаем пацвярджэння абяцанага.

Odpowiadając na skargę zamieszczoną w notatce „Niwy” pt. „Żle z autobusami”, przesłanej w dniu 1.VI.76 r. dot. nierugularnego kursowania autobusów odjeżdżających z Hajnówki do Ogrodnik o godz. 16.30, Oddział Osobowy PKS w Białymstoku w wyniku przeprowadzonego postępowania wyjaśniającego informuje, że na podstawie prowadzonej dokumentacji eksploatacyjnej stwierdzono, że za okres od 1 maja do 15 czerwca br. zawieszenie w/w kursów wystąpiło dwukrotnie z uwagi na brak kierowców, oraz 6 razy wykonano kursy z opóźnieniem w granicach od 30 min. do 180 min. z uwagi na brak taboru autobusowego i awarie na trasie.

Oddział tutejszy ma trudności w obsłużeniu wszystkich, objętych planem kursów w komunikacji autobusowej. Trudności te wypływają z braku taboru autobusowego, nadmiernego wyeksploatowania taboru istniejącego, co powoduje częste awarie na trasie. Brak części zamiennych nie pozwala osiągnąć planowej gotowości technicznej. Odczuwa się też ciągły brak dostatecznej ilości pracowników, szczególnie w grupie kierowców.

Oddział zapewnia, że użyje wszelkich dostępnych środków, aby poprawić sytuację regularnych kursów autobusów na w/w trasie.

Za kłopoty wynikłe w korzystaniu z naszych usług przepraszamy.

Z-ca Dyrektora
d/s Przewozów Oddziału Osobowego PKS
w Białymstoku.
**Ryszard Lider**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

# Дасканалы ўрок

Мы стаялі з бацькам на беразе возера. Метрах у ста ад нас плыла жанчына, якая нешта крычала, размахваючы рукамі. Адразу было відаць, што яна не мае найменшага ўяўлення аб стылях, таму што плысці і адначасова размахваць рукамі досыць няз ручна. Людзі на беразе з цікавасцю глядзелі на яе.

— Глянь, сынок, — сказаў мне бацька, — якія няўстойлівыя фарбы выпускае наша прамысловасць. За кожным разам, калі яна выныране, яе валасы ўсё святлеюць.

Я крыху пачакаў, пакуль галава жанчыны зноў паказалася над вадой, і прыгледзеўся да яе валос. Бацька, як заўсёды, меў рацыю. Тым часам жанчына зноў пачала крычаць немым голасам нешта нячленараздзельнае.

— А табе не здаецца, — сказаў я бацьку, — што яна топіцца і просіць ратунку?

— Не думаю, — сказаў бацька, — ужо ж надта ў яе скаардынаваны ўзмахі рук. Тапельцы, мне здаецца, проста малоцяць рукамі па вадзе.

— Можа, кінуць на ўсялякі выпадак выратавальны круг?

— А калі ты трапіш ёй у галаву? Ведаеш, што за гэта будзе?

На беразе тым часам сабралася досыць многа людзей.

— Дзе ратаўнік? — добра пастаўленым контральта крычала загарэлая дама.

— Кудысьці пайшоў, — адказалі з натоўпу.

— А дзе другі? Павінен жа быць другі, гэтакі бландзінчык...

— Бландзінчык быў, — сказаў бацька, — ды пазаўчора яшчэ ўтапіўся.

Нейкі мужчына ўсеўся на прыбярэжны пясок і пачаў расшнуроўваць чаравік.

— Вы хочаце яе выратаваць? — пачуўся чыйсьці голас. — Якая высакароднасць!

Мужчына на пяску схапіўся за абцас чаравіка і на момант захістаўся.

— Не бянтэжцеся, — заўважыў яму бацька, — дзіравыя шкарпэткі зусім не ўніжаюць чалавека.

— Дзіўна, як хутка яны рвуцца, — сказаў чалавек на пяску.

— Чаго вы хочаце, адзін брак выпускаюць, — пацвердзіў бацька.

— Не перашкаджайце яму раздзявацца, хай хутчэй скача ў ваду, каб памагчы патанаючай! — крыкнула старэйшая побач дама.

— Выбачайце, куды, вы сказалі, я павінен скакаць? — спужана спытаў мужчына на пяску, вытрасаючы нешта з чаравіка.

Натоўп пагрозліва наступаў на яго.

— Неадкладна скачы ў ваду, старая падла! — прагучэў шматгалосы хор.

— Пакуль ён раздзенецца, будзе ўжо позна! — крыкнула дама з добра пастаўленым контральта.

— Скачы адзеты! — загаласіў нехта.

— Я не ўмею плаваць, — узмаліўся мужчына.

— Дык навошта ты зняў чаравік?

— Каменьчык папаў...

— Ён хлусіць! — крыкнуў спартыўнага выгляду малады чалавек.

— Не верце яму, ён хоча выкруціцца ад адказнасці, — сказаў бацька. — Не хоча дапамагчы бліжняму!

— У ваду яго! — закрычалі ўсе хорам. — Хай ратуе, нягоднік!

Мы схапілі яго за рукі і за ногі, разгойдалі і кінулі ў возера. Калі ён сапраўды не ўмее плаваць, гэта паслужыць яму дасканалым урокам.

**Яцэк Савашкевіч**



**...Паганю за славаю давялося прыпыніць. Выявілася слабая фізічная падрыхтоўка.**





*Спорт і нячыстая сіла.*

## МІНІВЕРШЫ

### ПРЫЧЫНЫ НЯЎДАЧЫ

— Скажы, Міхась, дзе твой улоў?
Ідзеш без рыбы ты дамоў.
Мо ты рыбачыць развучыўся?
— Ды не, рубля я ўзяць забыўся!

**Павел Шыбут**

### ЗАСУМАВАЎ

— Кастусь, а чаго ты гэтакі сумны?

— А ты што — хіба не бачыш, што карчма адкрыта, а ў мяне грошай няма!

### РОДЗІЧЫ

Летам да бабулі на вёску прыехала ўнучка з горада. Пасядалі абедзве на снапах. Бабуля сядзіць, а ўнучка круціцца. Потым пытае старэнькую:

— Бабусю, а вас асцюкі не кусаюць?

— Не, Эльвірка, не кусаюць.

— Бабусю, а хіба яны не ведаюць, што мы з вамі родзічы?

* * *

Два шафёры-габраўцы сустрэліся на вузкім мосце, але ніхто не захацеў траціць дарэмна бензін і даць задні ход. Адзін разгарнуў газету і пачаў чытаць, думаючы, што другому надакучыць чакаць і ён ад'едзе назад. Але другі вылез з кабіны, сеў на падножку і сказаў:

— Калега! Калі прачытаеш газету, дай мне яе паглядзець!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Порцыя кураняці каштуе 30 франкаў? Вы што, зглузду з'ехалі? — абурацца ў рэстаране кліент.

— Чаму, мсье? — пытае афіцыянт.

— Як вы маглі зарэзаць такую каштоўную птушку?

* * *

— Няпраўда, што ўсе шатландцы чэрствыя людзі, — сказаў стары шатландзец. — Мы вось нядаўна гулялі з сябрамі ў покер, і адзін з іх раптам схапіўся за сэрца і ўпаў. Больш ён не падняўся. І, смею вас запэўніць, мы прынялі гэта вельмі блізка да сэрца — кончылі партыю стоячы.

* * *

Сусед прыйшоў да дзеда Міню пазычыць грошай, не вярнуўшы першага доўгу. Стары выслухаў яго і паказаў на шуфляду стала: ідзі, маўляў, і адлічы, колькі трэба.

— Але тут жа няма ніякіх грошай! — абурыўся сусед, высунуўшы пустую шуфляду.

— Былі б, калі б ты вярнуў першы доўг, — сказаў яму дзед Міню.



*Акселерацыя.*



### НАПОМНІЎ

Ехаў мужык з базару падхмелены і па дарозе дагнаў цыгана.

— Падвязі, дзядзька, — просіцца цыган, — я табе за пятака адгадаю ўсё, што ты захочаш.

— Сядай, — кажа мужык, — і скажы, адкуль я еду?

— Вы едзеце з горада, былі на базары.

— Праўда, на табе пятака. Цяпер скажы, куды я еду?

— Вы едзеце дахаты.

— Таксама праўда, на табе яшчэ аднаго пятака, і скажы, з якім намерам я еду?

— Вы едзеце, каб выгнаць сваю жонку з хаты, бо яна ў вас вельмі сярдзітая, — выпаліў цыган, што ў галаву прыйшло.

— Ага, добра, вось табе чырвонец!

— Не, дзядзька, дайце дробныя, бо я рэшты не маю.

— Бяры, дурань, усяго чырвонца не за тое, што адгадаў, а за тое, што напомніў.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе дзяўчат са Спічак змяшчаем песню*

## A GDZIE JEST SIÓDME MORZE

z repertuaru Maryli Rodowicz
słowa: Jerzy Kleyny
muzyka: Katarzyna Gaertner

W morze biegnę płonąca,
biegnę naprzeciw fali,
w morze biegnę płonąca,
świat się we mnie zapalił,
świat sie we mnie zapalił!

Świat mój pewnie najmniejszy,
świat mój pewnie największy,
świat, co zmienił się w pożar,
biegnę ugasić w morzach,
biegnę ugasić w morzach!

Pierwsze morze dziecięce,
pełne łódek z papieru,
którym nie stało jeszcze
kapitanów ni sterów...

Drugie morze zachłanne,
zatapia bez powodu,
po trzecim mew gromady
wiodą statki do lądu!

A gdzie jest siódme morze?
Jaki jest za nim ląd?
Czy to daleko, czy to daleko
Czy to daleko stąd...?

Czwarte tysiąc okrętów
aż do nieba kołysze,
piąte tysiącem muszli
opowiada nam ciszę...

Nad brzegami szóstego,
burza wielka dokoła,
nad brzegami szóstego
stoję, stoję i wołam!

A gdzie jest siódme morze...
Zanim na moim niebie
wzejdzie słońce najczystsze,
morzu opowiem siebie,
morzu siebie wykrzyczę!

Biegnę do morza, biegnę,
a gdy morze dogonię,
to przed morzem uklęknę,
to się morzu pokłonię!

A gdzie jest siódme morze...

### РАНА ПРАЧЫНАЕЦЦА

— У колькі гадзін раніцою ты прачынаешся?
— У шэсць гадзін.
— А потым што робіш?
— Потым зноў засынаю.

### АДПЛАЦІЛА

Муж: — Я не хачу, каб ты коратка стрыглася!
Жонка: — Ах, вось як? А ты пытаў маёй згоды, калі станавіўся лысым?



### „АВІЯПОШТА" МІСІС МЕРЫЛС

Большасць пісьмаў ад сяброў місіс Мерылс атрымлівае з дапамогай уласнай „авіяпошты". У яе 40 паштовых галубоў. Калі Мерылс наведваюць госці, яна дае ім на дарогу па два галубы. Праз некаторы час птушкі вяртаюцца з пісьмамі для гаспадыні, робячы нярэдка немалы шлях з Йоркшыра, напрыклад, у Паўднёвы Уэльс, дзе жыве Мерылс, што складае амаль 500 кіламетраў.

Газета „Дэйлі экспрэс" тлумачыць адраджэнне галубінай пошты прычынамі вельмі практычнымі і надзённымі: рэзкім павышэннем кошту паштовых расходаў і нясвоечасовай дастаўкай пісьмаў.

### САПРАЎДНЫЯ ДЖЭНТЛЬМЕНЫ

Адміністратар атэля ў англійскім горадзе Торнтан-Дэйл прапанаваў гаспадару атэля „адмовіцца ад традыцыі" і здаваць нумары не людзям, а сабакам. Ён матываваў сваю прапанову наступнымі неапрэчнымі аргументамі: сабакі не робяць спроб цалаваць пакаёвак, не крадуць попельніцы, не напіваюцца да беспрытомнага стану, не выкарыстоўваюць ручнік у якасці шчоткі для чысткі чаравікаў, не прапальваюць прасціны цыгарэтамі, не скардзяцца на абслугоўваючы персанал атэля. Гаспадар абдумвае гэту прапанову.

### ПАПАЎ У ЦЭЛЬ

У гады фашысцкага рэжыму Генрых Віланд чытаў лекцыю пра хімічны элемент фосфар.

— Фосфар — вельмі неабходны для харчу мозга элемент.

І, уздыхнуўшы, дадаў:

— На сённяшні дзень наша краіна — адна з найбольш бедных фосфарам.



*Жанчыны бываюць розныя — прыгожыя і... вельмі прыгожыя.*